БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

22 снежня 1994 г.
Чацвер
№ 138 (13855)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года





Малюнак І.АМЕЛЬЯНОВІЧ.

**Прыкметна палепшылася крымінагенная абстаноўка ў Баранавічах пасля стварэння тут пры гарадскім аддзеле ўнутраных спраў спецыялізаванага матарызаванага ўзвода патрульна-паставой службы. Толькі за апошні час па"гарачых" слядах раскрыта 17 крымінальных злачынстваў.**

**Нарады ўзвода з'яўляюцца ў самых крымінагенных кропках горада — на рынку, вакзале, ля рэстаранаў і бараў. Вядуць яны патруляванне і начных вуліц.**

**НА ЗДЫМКУ: камандзір узвода старшы лейтэнант Аляксандр КЕНДЫШ.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## Кур'ер "ЧЗ"

### ПРЭСА ЧАКАЕ СВАЙГО ЗАКОНА

*Выступаючы перад удзельнікамі канферэнцыі "Уваходжанне Беларусі ў міжнародную інфармацыйную прастору", міністр культуры і друку А.Бутэвіч адзначыў, што новая дзяржаўная палітыка адносна перыядычнага друку накіравана на садзейнічанне шырокаму спектру выданняў як па тэматыцы, так і па палітычнай арыентацыі.*

Міністр выказаў надзею, што на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета, магчыма, будзе дапрацаваны і прыняты ў другім чытанні Закон аб друку. Журналісты, адзначыў ён, павінны мець для сваёй работы гарантаваную сацыяльную і прававую абарону. Нярэдка ўзнікаюць яшчэ непаразуменні паміж журналістамі і службамі інфармацыі дзяржаўнай улады, падкрэсліў А.Бутэвіч, таму важна ўнесці ўдакладненні і дапрацаваць палажэнні аб правах журналістаў на атрыманне інфармацыі ад дзяржаўных структур.

Разам з іншымі праблемамі СМІ ў поўнай меры адчулі і матэрыяльную залежнасць. Міністр адзначыў, што фактычна 41 рэспубліканскае перыядычнае выданне спыніла б сваё існаванне без фінансавай падтрымкі. Уласныя даходы, напрыклад, "Чырвонай змены" за 9 месяцаў 1994 года склалі 7,7 працэнта, "Полымя" — 1,4. Вельмі нізкая аплата журналісцкай працы. Міністэрства культуры і друку распрацавала праект указа прэзідэнта і праект пастановы Кабінета Міністраў, якія, як сказаў міністр, прызначаны вырашыць шэраг журналісцкіх праблем.

У заключэнне А.Бутэвіч выдзеліў пяць асноўных напрамкаў, неабходных для стварэння інфармацыйнай сістэмы незалежнай Беларусі. Сярод іх — фарміраванне неабходнай заканадаўчай базы і матэрыяльна-тэхнічных умоў дзейнасці СМІ, рэальнае забеспячэнне свабоды слова, павелічэнне адказнасці журналістаў, падача аб'ектыўнай і праўдзівай інфармацыі, забеспячэнне ўсіх выданняў неабходнай інфармацыяй аб дзейнасці кіруючых органаў і ўсіх журналістаў магчымасцю свабоднага доступу да інфармацыі.

### МАРАЗЫ ЦЭНАМ НЕ ПЕРАШКОДА

*З 20 снежня зноў падаражэла белая гарэлка.*

Як і ў папярэдні раз, паўлітровая бутэлька — на тысячу, а 0,7 літра — на 1400 рублёў. За паўлітра "Пшанічнай" і "Сталічнай" у звычайным афармленні прыйдзецца выкладваць 7230, а ў спецыяльным і экспартным — 7290 "зайчыкаў", за "Рускую" і "Маскоўскую асобую" адпаведна па 7160 і 7220 рублёў.

### ЗРАБІЦЬ УСЁ МАГЧЫМАЕ...

*Беларускі камітэт абароны міру, Фонд міру Беларусі разам з усёй міратворчай грамадскасцю рэспублікі глыбока ўстрывожаны і заклапочаны падзеямі, якія адбываюцца ў гэтыя дні ў Чачні і іншых рэгіёнах Каўказа, што мяжуюць з ёй.*

Гэтыя арганізацыі, звяртаюцца да ўсіх, ад каго калежыць вырашэнне ваеннага канфлікту, з заклікам спыніць баявыя дзеянні. У прынятай імі заяве змяшчаецца заклік зрабіць усё магчымае для мірнага ўрэгулявання і недапушчэння новых кровапраліццяў.

### НАЛЁТ НА БМЗ

*Чарговым аб'ектам злачынства стаў Беларускі металургічны завод.*

Невядомыя яўна ведалі, куды і за чым ішлі. Прыгразіўшы дзвюм лабаранткам рэччу, падобнай на пісталет, яны зніклі з 25 плацінавымі тыглямі. Страты для Жлобінскага прадпрыемства вылічваюцца ў паўтара дзесятка мільёнаў.

БЕЛІНФАРМ.

### ЧАС ЗАВОРВАЦЬ КАМЕННЕ

*У Оршы мясцовы трактарарамонтны завод неўзабаве пачне выпускаць плугі, вельмі прыдатныя для камяністай Віцебшчыны. Справа ў тым, што яны спецыяльна прыстасаваны для апрацоўкі камяністай глебы.*

Выпуск навінкі асвойваецца сумесна з расейцамі. Такім чынам, прадукцыя паступіць як на ўнутраны, так і на знешні рынак. Трымай шырэй кішэню, селянін!

Уладзімір МІХНО.

### У "ГАРЫЗОНТА" — ЮБІЛЕЙ

*Калектыў аб'яднання "Гарызонт" адзначыў 40-годдзе з дня выпуску першага тэлевізара "Беларусь".*

Сёння ж на канвееры прадпрыемства — звыш дзесяці розных мадыфікацый сучасных тэлевізараў. Прадукцыю ВА "Гарызонт" добра ведаюць не толькі ў рэспубліках былога Саюза, але і за мяжой: у Галандыі, Бельгіі, Партугаліі, Югаславіі, Польшчы, Чэхаславакіі.

Анатоль РАМАНОВІЧ.

### "ЧП" МЯСЦОВАГА МАШТАБУ

*Бяссонная ноч выдалася ў жыхароў дамоў па вуліцах Горкага і Пушкіна ў Гродна. Пад раніцу яны прачнуліся ад рэзкага ўдушлівага паху ў кватэрах. Памяшканні запоўніў ядавіты газ.*

На шчасце, абышлося без ахвяр. Жыхары атрымалі лёгкае атручванне. Прычынай аварыі стала ўключаная нанач і пакінутая без нагляду ўстаноўка па падачы бітуму на вышыню, якая выкарыстоўвалася МП "Жувера". Бітум у цыстэрне закіпеў, і ядавіты газ, што ўтрымлівае вокісы азоту, вугляроду і шэраг канцэрагенных элементаў, трапіў у кватэры.

### КОНКУРС ЮНЫХ КАМПАЗІТАРАЎ

*Трэці міжнародны конкурс юных кампазітараў, прысвечаны памяці Максіма Багдановіча, адбыўся ў Гродна.*

Сорак пачынаючых аматараў з розных гарадоў Расіі, Украіны, Беларусі прадставілі на ім свае творы, большасць з якіх была прысвечана класіку беларускай паэзіі.

Сярод лаўрэатаў — дзве прадстаўніцы Гродзеншчыны-вучаніца Лідскай музычнай школы Дзінара Мазітава, вядомая таксама, як аўтар балета "Дзюймовачка", і вучаніца Ваўкавыскай музычнай школы Валерыя Янкоўская.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### ВЯЛІКІ КАРДЫНАЛЬСКІ ПРЫЁМ

*У Кафедральным касцёле Святой Дзевы Марыі адбыўся вялікі кардынальскі інгрэс. Усе светары Беларусі, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі, апостальскі Нунсій з Вацікана, дыпламатычны корпус Беларусі і шмат іншых асоб урачыста віталі мітрапаліта Мінскага і Магілёўскага, ксёндза-кардынала Казіміра Свёнтака.*

Папа Рымскі Павел ІІ упершыню ўзвёў у кардынальскі чын беларускага біскупа. Гэта падзея сама ацэньвае дзейнасць рыма-беларускага касцёла на Беларусі і сведчыць аб прызнанні перамен у нашай краіне ва ўсім свеце.

Філарэт, Патрыяршы Экзарх усея Беларусі, не толькі павіншаваў кардынала з высокім чынам, але і падарыў яму ў знак павагі і збліжэння дзвюх рэлігій ікону "Святіцеля Мікалая".

Святлана КУЛІКОВА.

### Курсы валют на 21 снежня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 10060 | 10370 | 6370 | 6625 |
| "Прыор" | 10200 | 10550 | 6470 | 6600 |
| "Дукат" | 10100 | 10400 | 6350 | 6690 |

## ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА

### ПАРЛАМЕНТ: РАЗМІНКА ПЕРАД ВЫБАРАМІ?

20 снежня ў парламенце прагучаў даклад дэпутата С.Антончыка аб фактах карупцыі ў адміністрацыі прэзідэнта. На яго думку, Беларуссю кіруе некалькі мафіёзных кланаў: аграрны, прамысловы, чарнобыльскі, гандлёва-знешнеэканамічны.

У якасці аргумента С.Антончык прывёў наступныя факты. У 1993 годзе 60 працэнтаў крэдытнай эмісіі праходзіла праз "Белаграпрамбанк", старшынёй праўлення якога быў цяперашні прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Сяргей Антончык лічыць, што цэны "раскручваліся" па наступнай схеме: парламенцкая Камісія па аграрных пытаннях, харчаванню і сацыяльнаму развіццю вёскі, якой кіраваў Уладзімір Гаркун — цяперашні віцэ-прэм'ер, выбівала крэдыты быццам бы пад патрэбы сялян. Урад ішоў насустрач. Нацыянальны банк "друкаваў грошы", якія ішлі ў "Белаграпрамбанк".

Многа непрыемнага прыйшлося пачуць і кіраўніку спраў прэзідэнта Івану Ціцянкову. Былі прыведзены прыклады з яго камерцыйнага мінулага ў фондзе "Спадчына Чарнобыля", дзе, як лічыць С.Антончык, на дабрачынныя мэты заставаліся, што называецца, капейкі. І гэта пры тым, што фонд займаўся вельмі грашовым таварам — нафтай, мазутам, бензінам.

У дакладзе практычна ўсе сястрыцы атрымалі па завушніцы. Начальніку службы кантролю прэзідэнцкай адміністрацыі Васілю Даўгалёву было пастаўлена ў віну парушэнне жыллёвага заканадаўства, міністр абароны Анатоль Кастэнка выслухаў нямала абвінавачванняў у злоўжыванні службовым становішчам і няправільным продажы ваеннай маёмасці. Не пакінуў без увагі С.Антончык і датэрміновае прысваенне воінскага звання палкоўніка дзяржсакратару Савета бяспекі Віктару Шэйману, які да гэтага меў званне маёра. Дасталося таксама Леаніду Сініцыну, Віктару Кучынскаму, некалькім работнікам прэзідэнцкай службы кантролю.

Па-рознаму ацаніў дэпутацкі корпус выступленне Сяргея Антончыка. Адны лічылі, што ў дадным выпадку ёсць два адзіна правільныя выхады: ці прыцягнуць дакладчыка да адказнасці за паклёп, ці неадкладна пайсці ў адстаўку прэм'ер-міністру Чыгіру. Некаторыя ўбачылі ў выступленні Антончыка спробу стварыць "трамплін" перад маючымі адбыцца выбарамі ў парламент.

Кіраўнік Кабінета Міністраў Міхаіл Чыгір у сваім выступленні расказаў аб мерах, што прымае ўрад па выхаду з крызісу, і заявіў, што не мае намеру ісці ў адстаўку ў цяжкі для рэспублікі час. Паводле яго слоў, частка дэпутатаў наўмысна не "заўважае" намаганняў урада. Гэту ж думку прадоўжыў віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун, які абверг выстаўленыя супраць яго абвінавачанні, спасылаючыся на канкрэтныя дакументы, заявіў, што пэўнай групе дэпутатаў у парламенце на шляху да выбараў будзе тым лепш, чым горшай будзе абстаноўка ў рэспубліцы. Затое аб сваім жаданні пайсці ў адстаўку афіцыйна заявілі на сесіі кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын і кіраўнік спраў прэзідэнта Іван Ціцянкоў. Міністр абароны Анатоль Кастэнка пагадзіўся адысці ад спраў на час работы камісіі па вывучэнню фактаў карупцыі, прыведзеных у дакладзе Антончыка. Праўда, пры галасаванні для стварэння такой пастаяннай камісіі не хапіла галасоў дэпутатаў.

Затым у парламенце выступіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён выказаў рэзкую нязгоду з фактамі, прыведзенымі ў дакладзе дэпутата Сяргея Антончыка, якія, паводле яго слоў, "вывернуты навыварат". Прэзідэнт лічыць, што прычынай выступлення дэпутата ад апазіцыі стала падрыхтоўка пэўных палітычных сіл да маючых адбыцца выбараў у парламент. Аляксандр Лукашэнка не мае намеру прымаць адстаўку трох адказных асоб з яго каманды — кіраўніка адміністрацыі Леаніда Сініцына, кіраўніка спраў прэзідэнта Івана Ціцянкова і міністра абароны Анатоля Кастэнкі. Аляксандр Лукашэнка звярнуўся з просьбай да Генеральнага пракурора даследаваць матэрыялы па карупцыі, прадстаўленыя дэпутатам Антончыкам, і паведаміў, што "калі будзе хоць маленькая зачэпка адносна прэзідэнта, абяцаю пайсці ў адстаўку". Прэзідэнт заклікаў дэпутатаў да разважлівасці.

БЕЛІНФАРМ.

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

### КРАХ ТУРЭЦКАЙ РЭЗІДЭНТУРЫ?

"Шпіёнская" тэма зноў усплыла на гэтым тыдні. У Камітэце дзяржаўнай бяспекі адбылася прэс-канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел вышэйшыя службовыя асобы гэтага ведамства. Тэма яе "Разведвальная дзейнасць спецслужбаў Турцыі на тэрыторыі нашай краіны".

Як паведамлялася ўжо, сёлета органамі Дзяржбяспекі былі затрыманы грамадзяне нашай рэспублікі, якія забяспечвалі інфармацыяй разведвальныя службы Турцыі.

На прэс-канферэнцыі старшыня КДБ Уладзімір Ягораў адзначыў, што спецслужбы Турцыі вялі разведвальную дзейнасць у Беларусі больш як паўтара года. Было ўстаноўлена, што пад дахам дыпламатычнага статуса працавалі прафесійныя разведчыкі. Іх дзеянні па збору інфармацыі аб нашай краіне, яе эканоміцы, вывучэнню звычаяў былі не зусім ужо і бяскрыўднымі. Да сярэдзіны гэтага года турэцкія "дыпламаты"-разведчыкі завербавалі двух грамадзян Беларусі па ўсіх правілах класічнай разведвальнай работы: з адборам падпіскі, грашовым утрыманнем, агентурнымі адносінамі. У аднаго з агентаў пад час затрымання былі знойдзены сакрэтныя звесткі.

Журналістам прапанавалі прагледзець дакументальныя відэаматэрыялы, якія тычацца гэтай аперацыі нашых спецслужбаў.

Аднак з-за дрэннага гуку, а таксама з-за таго, што матэрыял быў паказаны не поўнасцю,— як падкрэслівалася, гэта зараз рабіць рана,— мы не бяром на сябе адказнасць каменціраваць убачанае.

Далей на прэс-канферэнцыі паведамлялася, што паралельна з вярбоўкай двух грамадзян Беларусі прадстаўнікі замежнай разведкі прыступілі да пашырэння агентурнай сеткі. У якасці новых крыніц інфармацыі былі абраны два журналісты. Падкрэслівалася, што праз нашых калег выходзіла шмат звестак для службовага карыстання (праекты законаў, дакументы з сакратарыята краін—удзельніц СНД). Аднак такая інфармацыя не з'яўляецца сакрэтнай, што адзначылі самі арганізатары прэс-канферэнцыі. Інакш да журналістаў былі б прыменены іншыя санкцыі. У дадзеным жа выпадку справа абмежавалася толькі размовай і папярэджаннем. Да таго ж, гэты крок фактычна паклаў канец той мэце, якую мелі на ўвазе турэцкія спецслужбы і якая абавязкова б стала складам злачынства для братоў па пяру. Журналісты з'яўляліся кандыдатамі на вярбоўку і меркавалася, што адзін у першых чыслах снежня, а другі ў канцы месяца стануць агентамі замежнай разведкі. Да гэтага дапушчана не было.

На здзіўленне прысутных, чаму аперацыя са "шпіёнамі" атрымала такую шырокую агалоску, бо звычайна падобныя дзеянні спецслужбаў не афішыруюцца, адказ быў дадзены ў наступным сэнсе.

Дзейнасць турэцкіх спецслужбаў станавілася асабліва актыўнай на тэрыторыі Беларусі, і нельга было не рэагаваць на гэта, тым больш, што размова ўжо ішла пра двух агентаў і пра двух кандыдатаў на вярбоўку. Органы КДБ павінны былі дзейнічаць такім чынам, каб выключыць магчымасць выхаду на нашых грамадзян прадстаўнікоў замежнай разведкі, спыніць вярбовачную работу на тэрыторыі рэспублікі. У выніку праведзенай аперацыі, заўважылі прадстаўнікі КДБ, была поўнасцю ліквідавана рэзідэнтура турэцкай разведкі і спынена дзейнасць агентурнай сеткі.

Вольга ШАЎКО.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

## "Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "Еўраньюс"

### НАРОД І ПРЭЗІДЭНТ — РАЗАМ

*У Польшчы пракацілася хваля незадавальненняў з нагоды прыняцця ўрадам новай пастановы па падатках.*

Найбольш актыўна дзейнічалі служачыя аховы здароўя і адукацыі, якія наладзілі дэманстрацыю. Іх падтрымаў і Лех Валенса. Прэзідэнт не пагадзіўся з урадам і мае намер звярнуцца за вырашэннем спрэчкі ў Канстытуцыйны суд Польшчы.

### КУРС НА ПРЫМІРЭННЕ ВЕРНІКАЎ

*У Лондане адбылася сустрэча прэм'ер-міністраў Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі.*

Лідэры дзяржаў заявілі, што мірныя працэсы ў Паўночнай Ірландыі павінны быць паскораны. У пачатку года яе ўрад разгледзіць пытанні бяспекі краіны, а зараз галоўнай задачай новы прэм'ер лічыць прымірэнне паміж каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі.

### ГЕНЕРАЛЫ — НА СЛУЖБЕ Ў МАФІІ

*Міністэрства абароны Тайваня выкрыла ў сваім асяроддзі мафіёзных стаўленікаў.*

Як заявіў на пасяджэнні парламента міністр абароны Сунь Чэнь, у прыналежнасці да мафіёзных кланаў абвінавачваюцца 6 армейскіх генералаў. Дэпутаты ж ад апазіцыі паведамілі, што па іх звестках у сувязях з мафіяй замешаны сама меней 16 генералаў.

### ПЕРАМОГА САЦЫЯЛІСТАЎ

*У Балгарыі прайшлі парламенцкія выбары.*

Перамогу на іх атрымалі былыя камуністы — партыя сацыялістаў, якая набрала 44 працэнты галасоў. Партыя неакамуністаў — Саюз дэмакратычных сіл, якая стаяла на чале ўлады да выбараў, набрала 25 працэнтаў галасоў.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"





Газетна-выдавецкае акцыянернае таварыства "Маладняк"

прымае заяўкі на газетную паперу (ф 168, 84).

Тэлефоны: (0172) 68-27-21, 68-29-45.

1994 у люстры падзей


Гарачыя выбары. Ліпень.


Прысяга на дзяржаўным алтары.



Не будзьце разумнейшымі за продкаў.


Ці ацаніць зробленае Нобелеўскай прэміяй? Васілю Быкаву — 70.


І пасля гэтага яны накормяць нашу старасць?

1994 у люстры падзей

## КУР'ЕР "ЧЗ"

### НОВЫ АДРАС МУЗЕЯ

*У новы будынак пераехаў Музей гісторыі рэлігіі ў Гродна.*

Размяшчаецца ён цяпер па вуліцы Замкавай у часткова адрэстаўрыраваным былым палацы, які належаў гарадской знаці і з'яўляецца помнікам эпохі класіцызму XVIII стагоддзя. Дарэчы, аб гісторыі будынка расказвае невялікая экспазіцыя, прымеркаваная да наваселля музея. Тут жа адкрылася выстаўка "Барока на Беларусі", ёсць таксама свая канцэртная зала. Што датычыць асноўнай экспазіцыі аб гісторыі ўзнікнення і развіцця рэлігіі, то яна будзе прадстаўлена па меры далейшай рэстаўрацыі палаца. Ранейшы будынак, які займаў музей, перададзены ў распараджэнне жаночага праваслаўнага манастыра.

### ВЯСЁЛЫЯ ВЕЧАРЫ

*Вясёлыя вечары ў Люцынцы, дзе многія гады жыў і ствараў свае п'есы роданачальнік беларускай драматургіі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, ажылі ў Бабруйску на сцэне абласнога тэатра драмы і камедыі, які носіць яго імя.*

У адным спектаклі, так і названым "Вечары ў Люцынцы", аб'яднаны чатыры яго творы: "Пінская шляхта", "Шчыроўскія дажынкі", "Залёты", "Хіцер Зміцер". У гэтай пастаноўцы ўдзельнічае амаль уся трупа. Народныя песні, танцы выконваюць самі артысты. Паставіў спектакль мастацкі кіраўнік Гомельскага абласнога тэатра Уладзімір Караткевіч. Прэм'ера стала для школьнікаў тэмай адкрытых урокаў па творчасці пісьменніка-земляка. Іх праводзяць пасля кожнага калектыўнага прагляду настаўнікі мясцовых школ.

### ЮНЫЯ КАМПАЗІТАРЫ

*Лаўрэатамі міжнароднага конкурсу юных кампазітараў "Надзея-94", які завяршыўся ў Гродна, сталі 10-гадовая Дынара Мазітава з Ліды, 12-гадовая Валерыя Янкоўская з Ваўкавыска і 23-гадовы масквіч Сяргей Галубкоў.*

Першая з іх напісала музыку да балета "Дзюймовачка", другая — да оперы "Белая вішня". У ліку лепшых названы таксама Аркадзь Чубрык з Мінска, Вольга Абросава з Маскоўскай вобласці, масквічка Дар'я Сакаева і мінчанін Валерый Воранаў, якія таксама выканалі ўласныя музычныя кампазіцыі.

Прыз за лепшы твор на вершы Максіма Багдановіча, у памяць аб якім ужо трэці раз праводзіўся конкурс, дастаўся Аксане Амяльчук з Брэста.

### З ЖЫЦЦЯ ДЫЯСПАРЫ

*Звыш васьмідзесяці тысяч беларусаў пражываюць толькі ў Маскве. Але ёсць сярод іх асаблівыя, сардэчныя людзі, якія, быццам магнітам, прыцягваюць да сябе, становяцца той жыватворнай крынічкай, прыпаўшы да якой, можна наталіць смагу па роднаму слову, па забытай народнай песні...*

Для беларусаў Масквы такім чалавекам стала цётка Алеся — Алеся Адамаўна Бабарэка — дачка вядомага нацыянальнага асветніка і пісьменніка, арганізатара літаратурнага аб'яднання 20-х гадоў Адама Бабарэкі. Навуковы работнік, яна многа гадоў аддала працы ў імя Беларусі, а затым і Расіі. Нягледзячы на ўзрост, Алеся Адамаўна захавала ў памяці песні, якія спявалі ёй на роднай Гродзеншчыне бабуля і маці.

Разам з Ірынай Капчынскай Бабарэка стварыла гурток аўтэнтычнай беларускай песні.

**БЕЛІНФАРМ.**

## МОВА ЗЯМЛІ

# Казацкія Балсуны

*Вёска Казацкія Балсуны ўяўляецца нам адной з самых нязвычных, менавіта сваім далёкім мінулым, сярод іншых вёсак, размешчаных у парэччы Бесядзі, у Веткаўскім раёне, на самым усходнім рубяжы Беларусі.*

У вёсцы Стаўбун Веткаўскага раёна (размешчана на паўднёвы ўсход ад Казацкіх Балсуноў) запісана наступнае паданне: ў царстваванне Мікалая Першага з Дона збеглі тры казакі. Звалі іх Стаўбун, Балсун і Неглюб. Яны быццам бы заснавалі тры вёскі, якія атрымалі адпаведна назвы Стаўбун, Казацкія Балсуны і Неглюбка. Ёсць у нашай картатэцы і крыху іншы варыянт падання. У лясную мясцовасць, дзе дагэтуль ніхто не жыў, прыбыў атрад казакаў на чале з атаманам Балсуном ці Болсунам. Казакі заснавалі сярод лесу пасяленне, якое стала называцца Казацкімі Балсунамі.

Старажылы вёскі паведамляюць яшчэ шэраг цікавых фактаў. Так, у Казацкіх Балсунах ёсць месца, якое называюць Селішча. Лічаць, што менавіта тут і пасяліліся казакі, калі прыйшлі на гэта месца. За Селішчам, уздоўж ракі Бесядзь, па гары, ішоў няспынны вал, які для казакаў мог служыць абарончым збудаваннем. У 1933 годзе ў час небывалай паводкі быў змыты так званы Гарадок — вялікая гара над Бесяддзю. Гара была штучнага паходжання і, відаць, з ёй і быў звязаны нагаданы абарончы вал.

У дакументах, якія вяліся ў вёсцы да рэвалюцыі, быццам бы ставілі спецыяльную адзнаку, якая сведчыла аб "казацкім" ці, наадварот, "неказацкім" паходжанні чалавека.

У атамана Балсуна (Болсуна), згодна з паданнем, былі два памочнікі — Фесь і Сцяпынка. Ад Феся пайшло прозвішча Фяськоў, а ад Сцяпынкі — Сцяпынка. Першы дагэтуль існуе ў Казацкіх Балсунах. А вось носьбітаў другога прозвішча ўжо няма, хоць у мінулым яно было вельмі распаўсюджаным. Пра гэта сведчыць вуліца Сцяпыкіна, якая існавала да 1929 года ў вёсцы, калі было праведзена землеўпарадкаванне, у выніку чаго многія старыя вуліцы зніклі. Адзначым, што імя Фесь з'яўляецца ўсечанай, скарочанай формай поўнага імя Феакціст, а мянушка Сцяпынка паходзіць да імя Сцяпан.

Адным з галоўных фактаў, якія падтрымліваюць рэальнасць версій аб "казаках" на Бесядзі, з'яўляецца геаграфічная назва Нямкі. Яе носяць дзве суседнія з Казацкімі Балсунамі вёскі — Вялікія і Малыя Нямкі. Назва Нямкі ўтварылася ад калектыўнай мянушкі нямкі, якая датычылася ўсяго першапачатковага насельніцтва гэтых пасяленцаў (дакладней, да насельніцтва аднаго з іх, менавіта Вялікіх Нямкоў, бо Нямкі Малыя, як можна меркаваць, узніклі пазней, ужо як выселкі з Вялікіх Нямкоў). Мянушка нямкі ўказвала на тых людзей, якія адрозніваліся ў нейкай ступені асаблівасцямі мовы, пра якіх маглі сказаць: "Гэта — нямкі. Яны гавораць не так, як мы, неяк незразумела, невыразна". Жыхары ж суседніх вёсак у адказ на пытанне аб тым, хто жыве побач з імі, гаварылі прыкладна так: "Там жывуць нямкі". Так і пайшло: "Нямкі, нямкі..." Праз некаторы час мянушка ператварылася ў назву пасялення.

Існаванне геаграфічнай назвы Нямкі, такім чынам, указвае, што ў дадзенай мясцовасці сапраўды некалі пасяліліся людзі, якія адрозніваліся асаблівасцямі сваёй гаворкі ад навакольнага карэннага насельніцтва. Такімі "нямкамі" маглі быць і "казакі", дакладней кажучы, перасяленцы з пэўных раёнаў Украіны.

Прозвішча Балсун (Болсун) па паходжанні з'яўляецца зусім не славянскім. Хутчэй за ўсё, яго вытокі трэба шукаць у цюркскіх мовах, хоць дакладнае значэнне высветліць цяжка. Вядомы беларускі даследчык прозвішчаў, мянушак і імёнаў М.В.Бірыла ўказвае, напрыклад, адпаведнае слова кіргізскай мовы ў значэнні "хай будзе", на падставе якога ён тлумачыць прозвішча Балсун (Болсун). Такія прозвішчы фіксуюцца ва ўкраінскіх пісьмовых помніках з XVI стагоддзя, а ў беларускіх — з XVII стагоддзя. Прозвішча (мянушку) Балсун (Болсун) на берагі Бесядзі і Каўпіты (адзначым яшчэ вёску Балсуны Чачэрскага раёна, размешчаную ля ракі Каўпіты прытока Бесядзі) маглі прынесці з сабой тыя ж маларасійскія перасяленцы. Вядома, што славянскія плямёны, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Украіны, спрадвеку сутыкаліся з носьбітамі розных цюркскіх гаворак, качэўнікамі, якія няспынна рухаліся з глыбіні еўразійскіх стэпаў на працягу многіх стагоддзяў. Таму ў гаворках украінцаў ёсць асобныя цюркскія словы, ды і мянушкі і прозвішчы іх, у тым ліку многія асабовыя імёны ўкраінскіх казакаў маюць цюркскае паходжанне.

Такім чынам, наяўнасць рэальных казакаў, перасяленцаў з Украіны, у паўночнай частцы сучаснай Веткаўшчыны і суседніх раёнах у мінулым цалкам магчыма. А калі гэта так, то заканамерным выглядае і наступнае пытанне: калі і чаму яны (гэта значыць казакі) тут з'явіліся?

Перад 1772 годам, калі адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай, граніца паміж гэтай дзяржавай і Расіяй праходзіла якраз у наваколлях Казацкіх Балсуноў і Нямкоў. Прычым, праходзіла такім чынам, што абодва гэтыя населеныя пункты размяшчаліся на яе рускім баку. Даная граніца ўсталявалася пасля 1667 года, калі завяршылася працяглая вайна Расіі з Рэччу Паспалітай. Вайна распачалася ў 1654 годзе пасля далучэння да Расіі Украіны. А ў 1667 годзе ў вёсцы Андрусава на Смаленшчыне было заключана перамір'е. На тое, што Казацкія Балсуны, Нямкі ды яшчэ і вёска Балсуны сучаснага Чачэрскага раёна знаходзіліся на рускім баку граніцы, ускосна ўказваюць інвентары Чачэрскага староства за 1704—1726 гады. Чачэрскае староства ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай і да яго належалі многія суседнія з Казацкімі Балсунамі вёскі, напрыклад, Нісімкавічы, Валосавічы, Свяцілавічы, нават Стаўбун. А вось Казацкіх Балсуноў, Нямкоў і Балсуноў у інвентарах няма, выходзіць, яны знаходзіліся па-за межамі староства. А гэта раўназначна таму, што гэтыя вёскі былі ў складзе суседніх расійскіх абласцей.

105 гадоў, цэлае стагоддзе, з 1667 па 1772 год, гэта той адрэзак часу, які рэальна гаворыць аб заснаванні і паступовым росце Казацкіх Балсуноў ды, магчыма, і Нямкоў. Пагранічнае размяшчэнне гэтых вёсак падказвае менавіта такі вывад. Пасля ўсталявання граніцы рускі ўрад, як можна меркаваць, вымушаны быў клапаціцца аб увядзенні вартаўнічых застаў і пастоў. Для гэтай мэты маглі запрашацца "вольныя людзі", украінскія казакі, якія толькі-толькі прынялі падданства рускага цара. Казакам за нясенне службы даваліся зямля і плата. Паступова частка гэтых вартавых казакаў была пераведзена ў так званае "падатковае саслоўе" і ператварылася ў адну з катэгорый дзяржаўных расійскіх сялян. Менавіта так было ў выпадку з Казацкімі Балсунамі і, магчыма, Нямкамі. Гэтыя вёскі выраслі з вартаўнічых казацкіх застаў, якія былі заснаваны неўзабаве пасля ўсталявання руска-польскай граніцы ў 1667 годзе. Што ж датычыцца вёскі Балсуны Чачэрскага раёна, то, згодна з паданнем, якое бытуе ў Казацкіх Балсунах, гэта вёска ўзнікла з хутара Балсункі, на якім першапачаткова пасяліліся выхадцы з Казацкіх Балсуноў ("сыны атамана Болсуна"). Дадзенаму паданню, на наш погляд, няма падстаў не давяраць.

Праўда, нельга абвяргаць і магчымасць таго, што Казацкія Балсуны заснавалі зусім не ўкраінскія казакі, а казакі данскія, якіх якраз пасля 1667 года пасялілі на польскай граніцы. Данскія казакі фарміраваліся на аснове так званых броднікаў, патомкаў хазараў. Адсюль зразумела і цюркскае паходжанне прозвішча Балсун (Болсун). Некаторыя старажылы Казацкіх Балсуноў лічаць (вядома, гэта толькі пераказ падання, не больш таго), што пад час казацкіх войнаў іх вёска з'яўлялася вартаўнічым пастом казакаў пад началам палкоўніка Балсуна. Значыць, Казацкія Балсуны існавалі ўжо ў сярэдзіне XVII стагоддзя.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

## КРЫНІЦЫ

*Міхась ГУБЕРНАТАРАЎ*

### Беларускаму войску

*Горад прыўзняты і цешыцца вёска:*
*гэта не горшае будзе са свят.*
*Дык жа выводзь, генерал, свaё войска,*
*каб паказаць яго сілу і гарт.*
*Хлопцы ад родных бароў і ад гоняў,*
*ад беларускіх уквечаных хат*
*шчыра на мове сваёй загамоняць,*
*ціха пагладзяць рукой аўтамат.*
*Іх не паклічуць балтыйскія воды,*
*іх не сустрэне суровы Памір.*
*Службы салдацкай усю асалоду*
*зведаюць там, дзе трывалы ў нас мір.*
*Кедры Сібіры не дораць ім зорак,*
*лотас да ран не кладзе ім лісты.*
*Хлопцы ў дазоры зайцоў і вавёрак*
*пільна вартуюць лясныя пасты.*
*Сёння не трэба далёка ім ехаць,*
*хай Магілёў гэта будзе ці Брэст,*
*бачны ў бінокль ім родныя стрэхі,*
*вернасць, чаканне жаданых нявест.*
*Лішнія вёрсты — для маці маршчыны,*
*сёння ж трывога не тая ў жанчын:*
*сэрцам пачуюць, як служаць мужчыны —*
*родная ім перадасць далячынь.*
*Бачу ў руках юнакоў нашых зброю —*
*хай жа не выстраліць іх аўтамат.*
*Там жа за борам ці ўжо за гарою*
*дыхае блізкі славянскі наш брат.*
*Ёсць і ў яго чым на нас абазвацца...*
*Я не вайсковец, скажу лагадней:*
*будзем драбіцца, далей распыляцца,*
*толькі ці станем з таго мы мацней?*

**г.Гродна.**

*Мікола ТРАФІМЧУК*

### Цішыня

*Мы здзіўляемся: доўга вякуе*
*надбалелае сэрца Зямлі!*
*Хоць Зямля — нібы цацка, якую*
*забаўляцца дзіцяці далі.*
*Зноў і зноў канібалы, нероны*
*захапляюцца думкай сваёй,*
*што пасеемся крыкам нейтронным*
*і нямой прарасцём цішынёй...*
*Мы — Зямлі невычэрпная сіла,*
*мы — бясконцы працяг яе Дня.*
*Ёй крывавага зерня хапіла,*
*каб буяла ў вяках Цішыня.*

**г.Мінск.**

* * *

*Заклінаў:*
*"Забівайце мяне!..*
*Ды, крый божа, яе не чапайце!..*
*Сын... Павінен быць сын у яе.*
*Разумееце... Ірады... Маці!.."*
*Дзве вясны,*
*нібы веснія сны,*
*праляцелі ў нявечнай іх згодзе...*
*З расстраляных надзей іх сыны*
*ноччу*
*ворагам помсціць прыходзяць.*

### Раскажы, ветэран...

*Раскажы, ветэран,*
*словы з памяці просяцца самі...*
*Раскажы, з кім і дзе*
*ты калісьці ў атакі хадзіў.*
*Пасядзі, ветэран,*
*як любіў пасядзець ты з сынамі,*
*з намі*
*двойчы народжаны, дзядзька Міхась,*
*пасядзі!*

*Гэта дым франтавы*
*пабяліў ветэранам галовы,*
*і ўсе кулі вайны*
*каля самага сэрца прайшлі...*
*Раскажы, ветэран,*
*самі просяцца з памяці словы,*
*каб і мы расказаць*
*сваім дзецям таксама змаглі.*

*Праз такую вайну каб прайсці,*
*трэба сэрца са сталі,*
*трэба быць і штыхом,*
*і свінцом, і агнём, і бранёй.*
*Паглядзі, ветэран,*
*твае ўнукі дарослымі сталі,*
*засланіўшы вайну...*
*урачыстай тваёй цішынёй.*

*Тамаш ЛЯШОНАК*

### Пра маці

*Я не выбраў яе і няма больш адданай жанчыны,*
*каб без роздуму брала заўсёды той боль на сябе;*
*для спачыну яна не шукала ніколі прычыны,*
*толькі б я не гібеў ні хвіліны ў бядзе і журбе.*

*Вельмі доўга, на жаль, быў няўдзячным да гэтай жанчыны*
*за пяшчотнасць душы, дабрату і з'яўленне на свет...*
*І на схіле гадоў з цяжкім грузам віны за плячыма,*
*як запознены дар, на магілу прыношу букет...*

*Я не выбраў яе, наймілейшую гэту жанчыну,*
*што дала мне жыццё, блаславіла ў нязведаны свет.*
*Выбіраць мацярок — і радзіму сваю — немагчыма,*
*быць давеку ўдзячнымі ім — запавет.*

***

*Кароткі міг былога лета —*
*з табой сустрэчы яркі міг.*
*Удзячнасць шчырую за гэта*
*прыношу лёсу за дваіх.*

*Праз боль няўдалых паядынкаў,*
*завеі, слоту і смугу*
*гарачыню тваіх абдымкаў*
*забыць ніколі не магу.*

*Хай не спрабуюць брудам плётак*
*запэцкаць лета плеткары —*
*не вырваць ззяючы пялёстак*
*З суквецця радаснай пары.*

*Мы абаронім ад замаху*
*хвіліны лепшыя жыцця,*
*калі без роздуму і страху*
*ляцелі ў бездань пачуцця...*

*Кароткі міг пяшчоты лета*
*і абвастрэнне смагі жыць —*
*радок цудоўнага санета,*
*які ніколі не забыць.*

**г.Глыбокае.**




### ПРЭЗІДЭНТ У ДАЎЖНІКАХ

*Біл Клінтан лічыцца ў федэральных рэвізораў даўжніком.*

Паводле іх даных, амерыканскі прэзідэнт павінен вярнуць у міністэрства фінансаў больш як 4 мільёны даляраў, якія ён перавыдаткаваў у перадвыбарчай кампаніі два гады таму.

### У СПРАВЕ ДЗЮРАНА – НОВАЯ ВЕРСІЯ

*У амерыканскага следства з'явіліся новыя факты па справе Марціна Дзюрана.*

Яны даюць магчымасць меркаваць, што абвінавачаны ў спробе нападу на прэзідэнта Клінтана дзейнічаў не ў адзіночку, а быў выканаўцам змовы. Суд над Дзюранам адбудзецца ў сакавіку наступнага года.

### ДЗЯЎЧАТ ЗАКЛІКАЛІ НА СЛУЖБУ

*Узброеныя сілы Аргенціны папоўняцца ў хуткім часе прадстаўніцамі прыгожай паловы.*

Як вядома, у краіне была адменена нядаўна абавязковая служба ў арміі і ўведзена добраахвотная. Аргенцінскае камандаванне вырашыла набраць у свае войскі каля 500 дзяўчат.

### БРУС ДЗІКІНСАН – У САРАЕВЕ

*Паклоннікі рока ў Сараеве атрымалі выдатны калядны падарунак — магчымасць наведаць канцэрт Бруса Дзікінсана і яго групы.*

Візіт у былую Югаславію, дзе ідзе зараз вайна, быў арганізаваны фондам Сораса. Брус Дзікінсан прапанаваў іншым групам пераняць яго прыклад.

### "АЭРАСМІТ" ВЯРНУЎСЯ

*Група "Аэрасміт" завяршае сваё 18-месячнае сусветнае турнэ-шоу.*

У заканчэнні яго музыканты выступяць з канцэртам у сваім родным горадзе Бостане.

### АБ'ЯДНАЛА ПЕСНЯ

*Джон Бон Джові і Сіндзі Кроўфард працуюць разам над песняй "Калі ласка, вяртайся дамоў на Каляды" ("Please Come Home for Christmas").*

Супермадэль здымаецца ў кліпе да гэтай песні, якая ўваходзіць у альбом "Асобыя Каляды —2".

### МАРАДОНУ ЗЛАВІЛІ НА ХЛУСНІ

*З абурэннем адрэагавала Федэрацыя футбола Балівіі на звесткі пра тое , што, паводле слоў Дзіега Марадоны, яму быў прапанаваны пост трэнера нацыянальнай зборнай.*

Як заявілі прадстаўнікі федэрацыі, Марадоны няма нават у спіску прэтэндэнтаў на гэты пост.

### САФІ ЛАРЭН ЖЫВЕ Ў САНТА-БАРБАРЫ

*У Каліфорніі сапраўды ёсць невялікі гарадок Санта-Барбара. Хто яго ведае, ці адбываліся там падзеі, пра якія паведамляецца ў бясконцым тэлесерыяле, але адно вядома,што побач з гэтым гарадком знаходзіцца ранча, якое належыць вядомай кінаактрысе Сафі Ларэн.*

Яна там даволі часта жыве. А яе дваццацігадовы сын нядаўна задумаў разводзіць на ранча маці страусаў. Не дзеля экзотыкі, а каб разбагацець, таму што яйкі страуса, пер'е і мяса вельмі дарагія. Але Сафі Ларэн забараніла сыну гэтым займацца, вырашыўшы, што птушкі падобных габарытаў будуць перашкаджаць ёй адпачываць ад зменлівасці кінабізнесу.

### ЗОРКІ Ў СКУРЫ МЯДЗВЕДЗЯЎ

*Хутка пачнецца праца над фільмам "Тры мядзведзі", галоўныя ролі ў якім выконваюць Філ Колінз, Дэні Дэ Віта і Боб Хоскінс.*

Зняцца разам усім тром зоркам прапанавалі яшчэ некалькі год таму, і, паводле слоў Хоскінса, яму сапраўды вельмі цікава, што з усяго гэтага атрымаецца.

